

магілёўскі
# Выбар

№ 12
Ліпень
2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


# КРАІНА БУДЗЕ, КАЛІ МЫ ЯЕ НЕ ЗДАДЗІМ



… Адгрымела чарговае свята - «Дзень Незалежнасці”. Кажуць, яно нашае самае галоўнае. Трэба гімн дзяржаўны спяваць у пазначаны час, сабраўшыся ля вялікіх вулічных тэлевізараў і чытаючы па іх словы гімну - бо амаль ніхто іх на памяць не ведае. Трэба радавацца. Трэба святкаваць. Святкаваць… Дарэчы, “свята” - ад слоў “святасць, святым”. А што такога святога ў нас было менавіта 3 ліпеня? Ды нічога. А наогул - што такое нашы афіцыйныя святы? Адкуль яны? З якой такой святасці ўзніклі? Дзіўна, але пераважная большасць - ад шматлікіх ленінскіх дэкрэтаў аб утварэнні той ці іншай структуры - ці то ВЧК-НКВД-КГБ, ці то геадэзія-картаграфія. Праўда, дзень міліцыі ўсёткі перанеслі на сакавік - калі М.Фрунзэ ў Мінску першы міліцэйскі атрад арганізаваў.

Сакавік… Калі ўзгадваем гэту назву, у памяці ўсплывае чамусці не міліцэйскі дзень народзінаў, а лічба “25” - Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая лічба хвалюе, надае крылы. Ад яе вее непадробленай святасцю. Гэта - Свята. Сапраўднае і высокае. Дзяржаўнае. Самае галоўнае. І як бы ні замоўчвалі - гэта вялікая памяць аб нараджэнні беларускай незалежнай дзяржавы. І хоць у 1918 годзе не атрымалася ўтрымацца на высокай хвалі тагачаснага гістарычнага цунамі, але ж было і 27 ліпеня 1990 года - новы святы дзень для Беларусі. Сапраўднае Свята Незалежнасці. Дзе яно? Чаму не святкуецца?

Калі ж будзем святкаваць сваё — сапраўды незалежнае ад той савецкай “дэкрэтнай” інэрцыі?

Нейкая абыякавасць наўкола: ай, во - музыка грае, гарэлку наліваюць, эх, весялосць! Святкуем! Што святкуем? Ай, нешта святкуем - ды якая розніца!..

Абыякавасць… Чамусьці круціцца і круціцца ў галаве вершык Міхася Мірановіча:

Нас абы хто абы куды вядзе,
І абы што мы робім абы як.
І вось таму мы зараз абы дзе,
І нам адтуль не выбрацца ніяк.

А ці выбярэмся адтуль - з той абыякавасці? Ці помнім - што было? Ці адчуем сапраўдную ўзнёсласць і святасць нашых святаў? Упэўнены і перакананы: Выбярэмся. Помнім. Адчуем.

Гэта непазбежнасць, якая толькі ўзмацняецца ад колькасці тых забабонаў, што няспынна будуюцца неа яе шляху. Так і трэба - каб наша будучыня была моцнай і вольнай ад усяго чужога, не нашага. І прышчэпленай ад магчымай дураты, якой заўжды шмат будзе круціцца вакол нас.

Будзе Беларусь - Беларуская. З Памяццю. З Мовай. Годная. Працалюбівая. Дабразычлівая.

З еўрапейскай Будучыняй. Са сваімі вялікімі святамі.

І мы павінны рабіць усё, каб так і было.

Каб жыла Беларусь!

***Мікалай Яцкоў, паэт і пісьменнік***

## ВОТ ТАК БОРЕМСЯ С ПЬЯНСТВОМ?

Климовичский ликёро-водочный завод уже второй месяц подряд выпускает увеличенные объёмы 40-градусного напитка. Как результат – за июнь ЛВЗ увеличил налоги в бюджет на полтора миллиона долларов. Напомним, предприятие является одним из главных налогоплательщиков региона. Поручение губернатора Петра Рудника – объёмы не снижать. Ещё одна задача – увеличение экспорта. В июне 20 тысяч декалитров Климовичский ликёро-водочный завод уже отправил на экспорт.

***По материалам ТРК “Могилёв”***



*меркаванне*

# ШТО ПРЫНЕСЛІ БЕЛАРУСАМ ІНТЭГРАЦЫЙНЫЯ ПРАЦЭСЫ НА ПОСТСАВЕЦКАЙ ПРАСТОРЫ?

У час урачыстага сходу 2 ліпеня ў Палацы Рэспублікі, прысвечаным так званаму Дню Рэспублікі, А.Лукашэнка вялікую частку свайго выступу ўдзяліў тэме інтэграцыі Беларусі: “…вступая в те или иные союзы либо интеграционные объединения, мы должны смотреть не только на то, сколько у нас останется прав, полномочий, суверенитета или еще чего-то, а на то, что это принесет нашим людям, нашему народу, каждому человеку. И если для этого нужен какой-то компромисс, какой-то союз, то мы, безусловно, должны идти на него. Все должно делаться для человека и во имя человека”.




А сапраўды, што прынесла беларускаму грамадзяніну ўваходжанне нашай краіны ў той або іншы саюз?

У назвах разнастайных саюзаў на постсавецкай прасторы, у якія ўваходзіць наша краіна ўжо блытаюцца шматлікія беларускія чыноўнікі, не кажучы пра шэраговых грамадзян.

Акрамя існаваўшай з часоў развала Савецкага Саюза Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Беларусь за часы прэзідэнцтва стала яшчэ ўдзельнікам Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, ЕўрАзЭС, Мытнага саюза, АЭП, АДКБ. А ў 2011 годзе было яшчэ падпісана пагадненне паміж Расіяй, Казахстанам і Беларуссю аб стварэнні да 2015 года Еўразійскага саюза.

Пры падпісанні пагаднення аб утварэнні таго або іншага аб’яднання наша краіна бярэ на сябе абавязальніцтвы па выдзяленню сродкаў на ўтрыманне апарату гэтага аб’яднання, на рэалізацыю сумесных праграм згодна падпісаных дамоўленасцяў.

Так, напрыклад, у бюджэт Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі наша краіна выдзяляе кожны год дзесяткі мільёнаў долараў. І кожны год кантралюючыя фінансавыя органы Расійскай Федэрацыі выкрываюць разнастайныя парушэнні нямэтавага выкарыстання сродкаў бюджэта Саюзнай дзяржавы, выдзеленых на рэалізацыю сумесных праграм…

І ў выніку, як грыбы пасля дажджу, растуць шыкоўныя катэджы на Рублёўскай шашы ў Маскве, уладальнікамі якіх з’яўляюцца супрацоўнікі апарату Саюзнай дзяржавы.

Фінансавыя сродкі, выдзяляемыя нашай краінай у саюзны бюджэт, па сваіх памерах цалкам адпавядаюць патрэбам унутры краіны на аднаўленне льготаў разнастайным сацыяльным групам насельніцтва, ліквідаваным некалькі год таму.

Шмат чаго “прынесла” грамадзянам Беларусі ўваходжанне нашай краіны ў Адзіную эканамічную прастору. Напрыклад, падвышэнне з 1 ліпеня 2011 года мытаў на іншамаркі, увозімыя на тэрыторыю краіны з-за межаў, што вельмі балюча ўдарыла па карманах беларусаў. У падвышэнні мытаў на аўтамабілі праглядваецца толькі інтарэс Крамля з мэтай абараніць свой расійскі аўтапрам, падвысіць канкурэнтназдольнасць выпускаемых на сваёй тэрыторыі легкавых аўтамабіляў, а дакладней — заставіць беларусаў купляць легкавыя аўтамабілі, якія выпускаюцца на тэрыторыі РФ.

Але ж ці карыстаюцца высокапастаўленыя расійскія ды і беларускія чыноўнікі самі тымі “Жыгулямі”, “Ладамі”, “Волгамі”?..

Нават кіраўніцтва Беларусі прызнала, што наша краіна вельмі дорага заплаціла за ўваходжанне ў АЭП, што, на іх меркаванне, у выніку прывяло да фінансава-эканамічнага крызісу, абясцэньвання беларускага рубля, падзення ўзроўню жыцця насельніцтва.

Адным махам па ўзроўню жыцця насельніцтва нашай краіны было адкінута назад на дзесяткі гадоў. Абясцэніліся рублёвыя ўклады насельніцтва, знізіліся заробкі, у разы падскочылі кошты.

Стварэнне Мытнага саюза, а надалей — Адзінай эканамічнай прасторы вызвала адмоўныя працэсы ў эканоміцы Беларусі, адмоўна адбілася на шматлікіх беларускіх прадпрыемствах, што адчулі на сабе нашыя грамадзяне.

*(Заканч. на стар. 3)*

## ШТО ПРЫНЕСЛІ БЕЛАРУСАМ ІНТЭГРАЦЫЙНЫЯ ПРАЦЭСЫ НА ПОСТСАВЕЦКАЙ ПРАСТОРЫ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

У пошуках лепшай долі, лепшых заробкаў за апошнія два гады за межы рэспублікі з’ехалі дзесяткі тысяч высокакваліфікаваных спецыялістаў. Беларусь ператварылася ў пастаўшчыка таннай працоўнай сілы на абшары Расійскай Федэрацыі і ўраўнялася ў дадзеным плане з краінамі Сярэдняй Азіі.

У некаторых галінах вытворчасці Беларусі, асабліва — будаўніцтве, склалася крытычная сітуацыя з наяўнасцю кадраў.

На працягу ўжо 20 год наша краіна з’яўляецца ўдзельнікам яшчэ адной арганізацыі на постсавецкай прасторы — АДКБ (Арганізацыя дамовы калектыўнай бяспекі), мэты стварэння якой да гэтай пары не акрэслены. У некаторых удзельнікаў гэтага аб’яднання, акрамя Беларусі, даўно ўзнікаюць пытанні аб неабходнасці знаходжання ў АДКБ. А 2 ліпеня 2012 года Узбекістан прыняў рашэнне аб прыпыненні сваёй дзейнасці, што адпавядае выхаду з АДКБ.

Што ж прынясе беларусам завяршэнне ў 2015 годзе працэса фармавання Еўразійскага саюза?

Адназначна можна смела казаць, што згодна існуючай тэндэнцыі, нічога добрага. У Беларусі да мінімума будуць звужаны правы, паўнамоцтвы, суверэнітэт, і ўзнікнуць новыя абавязкі. Гэта будуць абавязкі па абслугоўванню інтарэсаў Крамля на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі і постсавецкай прасторы.

Калі ў бліжэйшы час не будуць прыняты тэрміновыя меры па абароне нацыянальных інтарэсаў Беларусі, беларускі народ чакаюць не вельмі вясёлыя перспектывы.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні партыі БНФ***

## ІНФЛЯЦЫЯ ЗА ПАЛОВУ 2012 ГОДУ СКЛАЛА 10,5%



Інфляцыя за палову 2012 году склала 10,5%, перадае БелаПАН са спасылкай на Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі. У чэрвені гэты паказчык склаў 1,8%, месяцам раней паслугі і тавары падаражалі на 1,6%.

Згадваецца, што найбольшая гадавая інфляцыя — 108,7%, была зафіксавана ў 2011 годзе, калі за некалькі месяцаў утрая абясцэніўся беларускі рубель. Паводле прагнозу Мінэканомікі на 2012 год, урад мусіць стрымаць гадавую інфляцыю на ўзроўні 19-22%.

## МАГІЛЁЎШЧЫНА: ТРОЕ АПАЗЫЦЫЯНЭРАЎ У АКРУГОВЫХ КАМІСІЯХ

З 32 вылучэнцаў ад апазыцыйных арганізацыяў Магілёўшчыны ў акруговыя камісіі трапілі трое. Двое — ад партыі левых «Справядлівы сьвет», і адзін — ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі.

Абласная арганізацыя АГП вылучала ў акруговыя камісіі восем сваіх актывістаў. Камэнтуючы вынікі сумеснага паседжаньня прэзыдыюму абласнога савету дэпутатаў і Магілёўскага аблвыканкаму, старшыня абласной структуры АГП Уладзімер Шанцаў заявіў:

«Гэта кажа пра тое, што ўлада сабралася падлічваць галасы сваімі ж рукамі. Гэты вынік — ён быў намі чаканы».

9 актывістаў вылучала партыі БНФ. Ніводзін у склад акруговых камісіяў ня трапіў.

Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ Зьміцер Салаўёў: «Яны баяцца нас. Баяцца, што мы пільна будзем сачыць за выбарамі, а іхныя фальшаваньні ня пройдуць. Выбары пройдуць паводле тых схемаў, паводле якіх яны адбываліся й раней. Мне, напрыклад, адмовілі на той падставе, што я нібыта не займаюся грамадзкай дзейнасьцю. Нашым вылучэнцам адмаўлялі, што ў іх няма досьведу працы ў камісіях».

Абласная арганізацыі партыі левых «Справядлівы сьвет» вылучала 10 кандыдатураў. Дзьве кандыдатуры вылучала няўрадавая арганізацыя «Магілёўскі праваабарончы цэнтар».

Вылучэнец ад «Магілёўскага праваабарончага цэнтру», удзельнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Аляксей Колчын таксама прысутнічаў на паседжаньні ў аблвыканкаме. Ён адзначае:

«На паседжаньні было прынятае рашэньне не публікаваць месцы працы сябраў выбарчых камісіяў, паколькі гэтага не патрабуе Выбарчы кодэкс. Гэта азначае, што ўжо на этапе фармаваньня камісіяў улада схільная да закрытасьці. Як на мяне, то ўтойваць такую інфармацыю няма прычынаў».

На Магілёўшчыне створана 13 акруговых камісіяў — у кожнай па 13 сябраў. На 169 месцаў у камісіях прэтэндавалі 251 кандыдат. У іх склад увайшлі вылучэнцы ад прадзяржаўных арганізацыяў, ад працоўных калектываў і ад грамадзян — шляхам збору подпісаў.

***Радыё”Свабода”***

*сельская гаспадарка*

# НЕ АД РАБОТЫ КОНІ... ЗНІКЛІ

**Конегадоўля на Магілёўшчыне развіваецца вельмі дзіўна**




Цытата адказнага кіраўніка найважнейшай вытворчай галіны Магілёўшчыны намесніка старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Алега Маслака: “Фактычна аказалася, што праграма па развіцці конегадоўлі прынята ў нас на паперы. Увага гэтай справе ўдзяляецца на месцах па так званым рэшткавым прынцыпе, а то і нагогул ігнаруецца яе выкананне. Мы сёння вымушаны кардынальна змяніць сітуацыю, менавіта таму і праводзім гэтае пасяджэнне калегіі камітэта”.

Гэтай цытаце неўзабаве споўніцца год. Самы час для таго, каб вярнуцца да пытання і паглядзець, што ж зроблена за мінулы час і ці палепшылася сітуацыя. Але не чуваць, каб камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні склікаў такую калегію. Атрымліваецца, што і тут высілкі сышлі на “паперу”, а справа як была ў загоне, так і застаецца...

“Магілёўскі Выбар”, канечне, не калегія аблвыканкамаўскага камітэта, але таксама зацікавілася гэтай праблемай. Аднак спачатку некалькі здабытых праз статыстыку лічбаў. Цяжка ўявіць, але на ўвесь Клімавіцкі раён сёння налічваецца менш чым 300 коней. Праўда, гэта як паглядзець, бо ў Хоцімскім раёне іх усяго 140 галоў, у Чэрыкаўскім — 156. Пры такой іх колькасці не на кожную вёску прыпадае хоць бы па адным коні. Чаму?!

Першае слова тут — уладальніку прыватнага каня на вёсцы. Вось што распавёў нам адзін з вяскоўцаў з Бялыніцкага раёна:

— Ды вось і я трымаю каня апошні год. Стары ён ужо ў мяне, час яго здаць. Ён для мяне, праўда, больш сябра, чым памочнік, таму цягну з ім колькі магу... А так навокал даўно ні ў каго коней няма, не тое, што раней. Пра дзяцінства сваё ўзгадваць не буду, але яшчэ 10—15 гадоў назад конь быў распаўсюджаным утрыманцам у вясковай гаспадарцы. Там з плугам трэба прайсціся па агародзе, там — суседу дапамагчы, адвезці што, прывезці, само сабой... Пэўны ўчастак травяной пашы калгас (а потым і саўгас) заўсёды выдзяляў пад нарыхтоўку сена, мукі набудзеш сам — і зіму конь перажыве. І не так гэта дарага абыходзілася, бо вярталіся затраты праз работу каня і для сябе, і для суседзяў-аднавяскоўцаў. А цяпер на ўсю засталося не так шмат коней, бо вёска працягвае імкліва старэць. Людзі пазбывалі ўласных кароў, у асабістых гаспадарках зменшылась агульная колькасць іншай жывёлы і птушкі. Старым людзям цяпер цяжка трымаць любую гаспадарку, вось і пазбаўляюцца яны лішніх клопатаў. Ну і як іх за гэта асуджаць, калі і сапраўды цяжкая гэта справа, а такія прадукты, як малако, смятана і мяса прыйшлі і ў вясковую краму? А гаспадарчае начальства і кіраўніцтва сельскай галіны глядзяць на змяншэнне колькасці галоў таксама спакойна і ніякіх мер, каб гэта ўратаваць, не прапаноўваюць і не прымаюць, бо таксама адным клопатам менш. Развітой вытворчасці перапрацоўкі каніны ў шырокім сэнсе слова няма, прапаноў па выкарыстанні коней, што магло б даць работу і іншым цэхам на вёсцы, для турызму і вольнага часу, таксама няма. Што ж тычыцца маладых людзей, то іх на вёсцызастаецца мала, а тыя, што ёсць, вясковую экзотыку — коней-кароў-авечак — не ўспрымаюць. У іх матацыклы, аўто, а то і трактары ў асабістым карыстанні. Таму, здаецца мне, век коней на вёсцы мінае, як гэта ні шкада...

А зараз слова спецыялісту, кандыдату эканамічных навук Пятру Мігурскаму:

— Конь сыходзіць з сельскагаспадарчага жыцця заканамерна. Сёння ўтрыманне каня ў прыватнай гаспадарцы вельмі нятанная рэч. За зіму, як кажуць на вёсцы, конь з’ядае каня. А паслугі, якія можна ўзяць з каня, сёння запатрабаваны не вельмі ахвотна. Раней без каня на вёсцы было цяжка, цяпер — не. Тут справа ў тым, што рэзка

*(Пачатак. Заканч. на стар. 5)*

*пункт гледжання*

# ВИТАЛИЙ МАКАРЕНКО: НИКТО НАС НЕ ОСЧАСТЛИВИТ, ЕСЛИ МЫ САМИ ЭТОГО НЕ БУДЕМ ДОБИВАТЬСЯ

**Мы продолжаем вести беседы с лидерами демократического движения Могилёвской области. На этот раз предлагаем вашему вниманию интервью с Виталием Макаренко. Женат, в демократическом движении с 1997 года, был руководителем городской организации БНФ, сейчас заместитель председателя городской и областной организации БНФ, член Сойма. Магистр государственного управления, в настоящее время активист гражданской инициативы жителей микрорайона "Юбилейный" - "За дабрабыт і справядлівасць!".**

*– Какие проблемы в нашем городе выходят на первый план?*

– Главные проблемы - неподотчётность власти жителям города, отсутствие общественного участия в принятии решений и гражданского контроля за действиями власти.

*– Что нужно поменять, чтобы местная власть работала более эффективно, а демократы были более заметны?*

Вообще говоря, нужно менять "вертикальный" принцип построения местной власти. Мэр однозначно должен избираться гражданами, а горсовет становиться реальным органом принимающим решения.

Демократам следует развивать местные сообщества.



***Виталий Макаренко***

*– Готовы ли вы сотрудничать с действующей властью? Если так, то на каких условиях?*

– В решении местных и социальных проблем сотрудничество возможно. Условие одно - взаимная заинтересованность сторон.

*– Как достучаться до простых горожан и втянуть их в политику? Что для этого нужно делать?*

– Это сложно, так как политики в её традиционном смысле в Беларуси нет.

Чтобы поднять политическую активность общественности, на мой взгляд, необходимо показывать как их безучастность негативно влияет на жизнь.

*– На какой должности вы себя видите, в случае победы демократов?*

– Любые выборные должности. Политик должен получать мандат доверия от жителей. Например, – депутат или председатель горсовета. Также мне интересна реформа административной системы.

*– Ваши пожелания могилевчанам.*

– Не быть "овощами", никто нас не осчастливит, если мы сами этого не будем добиваться.

***Беседовал Кирилл Грихин, "Наш Могилёв"***

## НЕ АД РАБОТЫ КОНІ... ЗНІКЛІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

паменшыўся і памер прысядзібных участкаў, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці прадуктаў харчавання. Прыватная гаспадарка задавальняе сямейныя патрэбы праз сад і агарод, а дачнікі ўвогуле ўсё часцей карыстаюцца дачамі ў так званых рэкрацыйных мэтах — для ўзнайлення сіл і здароўя. Раней уладальнік каня зарабляў за сезон мо і 1000 долараў, а сёння самае большае, чаго можна дасягнуць, — долараў 200—250. Расцэнкі за апрацоўку зямлі як быццам і немалыя — 5-7 тысяч рублёў (амаль што адзін долар) за "сотку". Што тут заробіш? А спробы падняць расцэнкі прывялі да таго, што вяскоўцы пачалі акучваць бульбу ўручную, капанічкамі. І якасць нармальная, калі старацца (сваё ж!), і эканомія ў пару соцень тысяч рублёў нялішняя для сямейнага вясковага бюджэту. Аднак развіццё конегадоўлі стрымлівае палітыка дзяржаўных закупачных цэн. Яны (што, магчыма, і правільна ў нашых шыротах) меншыя за цэны на ялавічыну і свініну. Ну а кошты дыктуе, як хочацца верыць, рынак. Таму калі я бачу абвестку "куплю каніну дорага", то разумею, што насамрэч на гэтым хоча зарабіць перакупшчык, а ўладальніку той каніны і яе спажыўцу спадзявацца на гэта не выпадае. Каня трэба гадаваць пад продаж не менш як 2-3 гады, не тое што бычка за 18 месяцаў. Атрымліваецца, што нават калі за каня селянін зможа ўзяць і 8, а то і 10 млн рублёў, усё роўна нявыгадна. У грамадскім гаспадаранні і вытворчасці паслугі коней штогод становяцца таксама ўсё менш запатрабаваны. Шырока яны выкарыстоўваюцца, бадай, толькі на аб'ездзе зборшчыкаў малака па вясковых дварах. Такім чынам, выгаднай жывёлінай у прыватнай вясковай гаспадарцы застаецца карова… Толькі вось і іх тут становіцца ўсё менш. Але гэта ўжо тэма іншай гаворкі.

***Віктар ВОЙТ***

# КРАСНАЯ ЗОНА БЫХОВ



*Сергей Антонов*

Есть в Быхове чудом сохранившееся здание замкового комплекса, которое известно тем, что в нем содержались под арестом два генерала, поочередно возглавлявшие белое движение и доставившие массу неприятностей большевикам. Историю пребывания в Быховском замке Антона Ивановича Деникина и Лавра Георгиевича Корнилова нет смысла: в интернете полно воспоминаний очевидцев тех событий. Да и публикаций современных краеведов, вдоль и поперек «осмысляющих» события почти столетней давности тоже выше крыши.

Тут дело доходит до откровенного маразма. Кто-то утверждает, что при побеге из крепости генерал Корнилов прыгал в седло своего скакуна со второго этажа. Кому-то не дает покоя история с доставкой водки для арестанта Деникина. Третий акцентирует внимание на стаде коров, пасшихся у стен замка для снабжения арестованных буржуинов свежим молоком.

На мой взгляд, суть этой истории в другом – Корнилов и Деникин были храбрыми офицерами, истовыми христианами, людьми, заслужившими непререкаемый авторитет задолго до кровавых событий семнадцатого. Их короткое пребывание в Быхове следует увековечить исходя, хотя бы из этих соображений.

**Мое предложение собрать средства на мемориальную доску Корнилову и Деникину встретило непонимание, как у властей, так и у местных националистов. Из районной газеты «Маяк Прыдняпроўя», где я собирался разместить статью на эту тему, пришла удивленная отписка «Увековечить память белогвардейцев?!».**

Краеведы-националисты, с которым довелось обсуждать данную тему на интернет-форумах, тоже против, поскольку речь идет о представителях России, которая частенько выступала в отношении младшей сестры Белоруссии, как захватчица. Я согласен с этим на все сто, но хочу напомнить об угрозе более страшной, чем десять российских экспансий. Имя ей – большевизм.

Посмотрим на улицы Быхова. Много ли на них памятников истории, без учета тех, что посвящены Великой Отечественной войне? Кроме двух памятников Ильичу, мемориальной доски на здании ревкома и обелиска борцам за Советскую власть нет ничего. Создается впечатление, что до революции история у Быхова отсутствовала напрочь, а на переломе эпох героями были только большевики.

Где улица Яна Хадкевича, где площадь Льва Сапеги? Их нет и не предвидится. Зато есть площадь Октябрьская, есть улицы имени чекистов Наума Француза и Георгия Дорохова. Имеется даже памятник Сорочинской коммуне, просуществовавшей ровно столько, насколько хватило съестных запасов, реквизированных у помещиков.

Ни Француз, ни Дорохов работавшие в двадцатых в уездной ЧК ничего особенного не совершили. Просто в силу возраста и непрофессионализма имели неосторожность погибнуть от руки более опытного противника. А сорочинские коммунары, если чем и прославились, так только организацией совместной помывки мужчин и женщин в бане.

Как ни крути, а этим «героям» до Корнилова и Деникина далеко.

Зачем так цепко держаться за устаревшие и покрытые паутиной догмы? Может по ошибке или из-за провинциального консерватизма. Отнюдь.

Несмотря на развал Советского Союза и крушение коммунистической идеологии Белоруссия за последние десятилетия сильно продвинулась в плане восстановления «завоеваний» социализма. Нас упорно заставляют забыть о жителях ГДР, карабкающихся через Берлинскую стену, чтобы сбежать из социалистического рая в «загнивающую» ФРГ. О кубинцах, которые, рискуя жизнью, уплывают на надувных плотах в США. О нищей КНДР и процветающем Сеуле.

В Белоруссии реанимирован комсомол, у памятников Ленину стоят в почетных караулах пионеры, а на годовщину Октябрьского переворота улицы становятся красными от кумача.

Дело в том, что большевики просто так, за здорово живешь, не сдадутся. Те, кто «строил» Советскую власть, ушли в небытие, но успели посадить на руководящие посты детей, а те - внуков. Сегодня нами управляют правнуки первых чекистов. Не в их интересах терпеть капиталистические поползновения. Они привыкли руководить народом, который считают бессловесным быдлом. Отсюда и все сказки о том, что современная Белоруссия взяла все лучшее от советского строя. Не было в нем ничего лучшего. Просто прямые наследники функционеров из КПСС, хоть и оправились от

*(Окончание на стр.7)*

# КРАСНАЯ ЗОНА БЫХОВ

(Оконч. Начало на стр. 6)

от шока 90-х, по-прежнему ничего не умеют, кроме как лить словесную воду на мельницу пропаганды и заменять колбасу идеологической пищей.

Они до сих пор считают себя победителями и если в крупных городах нет-нет да проскользывает инакомыслие, то красные князья глубинки довольно уверенно держатся на марксистко-ленинских позициях, хоть и захаживают по новой моде в церковь.

Именно по этим, сугубо личным мотивам, белорусские чиновники никогда не позволят чтить память белогвардейцев, будь они трижды достойными людьми.

Расчет здесь предельно прост – сегодня разрешишь мемориальную доску Корнилову и Деникину, завтра придется потесниться Ильичу, а послезавтра, глядишь, встанет вопрос о целесообразности существования идеологических групп.

Что касается «российственности» генералов Антона Деникина и Лавра Корнилова, то это для большевиков новой формации – сущая мелочь. Коммунизм, по своей сути, космополитичен и не признает никакой истории кроме своей собственной.

Носителям этой идеологии все равно кого запрещать: генералиссимуса Суворова или демократа Калиновского, Ивана Золотаренко или неизвестного солдата ранившего атамана под стенами все той же Быховской крепости.

Так будет до тех пор, пока в красной зоне под названием Быхов будут верховодить потомственные приверженцы красных знамен.

**Сергей Антонов**

## АКЦЫЯ Ў ПАДТРЫМКУ ПАЛІТВЯЗНЯЎ У ХОЦІМСКУ




У людных месцах гарадскога пасёлка Хоцімск у першай палове ліпеня з’явіліся ўлёткі “Палітычным зняволеным важная ваша падтрымка”, у якіх мясцовых жыхароў заклікалі дасылаць палітзняволеным лісты і паштоўкі салідарнасці.

Акцыю правялі мясцовыя актывісты кампаніі “Гавары праўду”.

- Мы распаўсюдзілі па Хоцімску некалькі дзесяткаў такіх улётак, вывесілі іх у найбольш шматлюдных месцах нашага гарадскога пасёлка, - кажа мясцовы грамадскі актывіст Валерый Каранкевіч. - Акрамя гэтага, заклік з адрасамі палітвязняў быў надрукаваны ў хоцімскай маланакладнай газеце “Беларускі Усход” , якая распаўсюджваецца сярод жыхароў нашага раёна. Лічу, што падтрымліваць палітвязняў і выказваць ім нашу салідарнасць патрэбна пастаянна, іх лёс павінен непакоіць усіх неабыякавых людзей.

**Ірына Беганкіна**

## КРАЖА В БЕЛЫНИЧАХ

4 июля Белыничским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 1 УК (Грабеж) в отношении неработающего несудимого жителя г.п. Белыничи 1985 г.р., который 3 июля около 2-00 на ул. Калинина открыто похитил сумочку с документами, фотоаппаратом, 23 тысячами рублей у жителя г. Кириши РФ 1956 г.р. Мера пресечения не избиралась. Похищенное изъято.

**uvd.mogilev.by**

## СПРАВКА “МАГІЛЁЎСКАГА ВЫБАРА”

*Сергей Валентинович Антонов родился 26 августа 1968 года в Быхове.*

*В 1985 году закончил школу и поступил Могилевский технологический институт (ныне Могилёвский государственный университет продовольствия). Срочную службу (1987-89 гг.) проходил в Москве.*

*В 1992 году закончил институт по специальности инженер-механик.*

*Работал в районной газете «Маяк Приднепровья».*

*С 2000 года — собственный корреспондент минской газеты «Частный детектив».*

*Член партии Белорусский Народный Фронт с пятнадцатилетним стажем.*

*Библиография:*

*Три романа «Оргор» в жанре фэнтези. Мистические триллеры «Полнолуние» и «Скальпель доктора Менгеле» Издательство «Амадеус». 2008 год.*

*Романы «Темные туннели», «В интересах революции» и «Непогребенные»; рассказ «Tabula Rasa» для сборника «Вселенная Метро 2033. Последнее убежище», рассказ “Пушистик” для сборника “S.W.A.L.K.E.R Похитители артефактов” Издательство АСТ. 2010 — 2012 гг.*

*Роман-фэнтези «Пятиборец». Издательство «Эксмо». 2012 год.*

*Роман Сергея Антонова “Темные туннели» переведен на немецкий язык.*

*усяго патроху*

## У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПАРТЫЯ БНФ ПЛАНУЕ ВЫЛУЧЫЦЬ ПЯЦЬ КАНДЫДАТАЎ




У Магілёўскай вобласці Партыя БНФ збіраецца вылучыць кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пяць сваіх сяброў. Два з іх – старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ Сяргей Брыцікаў і яго намеснік Віталь Макаранка - будуць вылучацца ў якасці кандыдатаў у Магілёве.

Яшчэ тры кандыдаты ад Партыі БНФ плануюць прыняць удзел у выбарах па выбарчых акругах у Магілёўскай вобласці. Намеснік старшыні Партыі БНФ, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Рыгор Кастусёў будзе вылучацца ў якасці кандыдата па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90. Нагадаем, што Рыгор Кастусёў стала пражывае менавіта ў горадзе Шклове. Па Асіповіцкай выбарчай акрузе № 89 плануе вылучыцца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Альберт Яўменаў, які жыве ў пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёна.

Па Быхаўскай выбарчай акрузе № 81 ад Партыі БНФ будзе вылучаны Сяргей Антонаў. Сяргей Антонаў – вядомы журналіст і пісьменнік у жанры “фэнтэзі”, яго творы неаднаразова выдаваліся ў Расіі. Сам Сяргей Антонаў пастаянна пражывае ў Быхаве, ён з’яўляецца сябрам Партыі БНФ больш за пятнаццаць гадоў.

Па словах намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва, спіс магчымых кандыдатаў ад Партыі БНФ у Магілёўскай вобласці можа быць пашыраны, для гэтага яшчэ ёсць час.

Шэраг сяброў партыі ў Магілёўскай вобласці наогул не падтрымліваюць ідэю хоць якога ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў, бо не лічаць гэтыя “выбары” свабоднымі і справядлівымі.

***Барыс Вырвіч***

## ПЕНСИОНЕРОВ ВСЁ БОЛЬШЕ



По официальным данным на 1 июля в Могилевской области насчитывалось 293 125 пенсионеров. Об этом сообщила журналистам заместитель председателя комитета по труду, занятости и социальной защите облисполкома Вера Шлапакова.

В их числе 199 498 женщин и 93 697 мужчин. Средний размер назначенных в регионе месячных пенсий составил Br1 412 485. Из 42 451 женщин - получателей трудовых пенсий в возрасте 55-59 лет - продолжает трудиться 20 172 человека, среди 24 688 мужчин в возрастной категории 60-64 года – 9 064.

В органах социальной защиты Могилевщины на 1 июля также состояло 34 856 пенсионеров (7 641 мужчина и 27 215 женщин) в возрасте 80-89 лет, из которых продолжают трудиться 25 и 17 человек соответственно.

2 759 жителей Приднепровского края достигли 90-99 лет, в том числе 363 мужчины и 2 396 женщин, а среди столетних и старше - 9 мужчин и 55 женщин.

## МАГІЛЁВЕЦ УТАПІЎСЯ Ў ДНЯПРЫ ЗА СКРЫНЮ ГАРЭЛКІ

У Магілёве двое мужчын скокнулі з маста ў Днепр.

Здарэнне адбылося 8 ліпеня ў 16-00 на масту па Пушкінскім праспекце.

Як стала вядома, грамадзяне знаходзіліся нападпітку і паспрачаліся на скрыню гарэлкі.

33-гадовы мужчына патануў, яго цела пакуль не знойдзена. 39-гадовы з траўмамі дастаўлены ў гарадскую бальніцу.

Яшчэ адно здарэнне на рацэ Сож адбылося ў Крычаве 7 ліпеня. 37-гадовы мужчына кіруючы гідрацыклам не заўважыў нацягнуты буксіровачны трос і наехаў на яго на хуткасці, прычыніў сабе смяротную траўму.

## МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ МАГІЛЁВА ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Музей гісторыі Магілёва працягвае працаваць над папаўненнем уласнай калекцыі стадрукаў, якія датычаць гісторыі абласнога цэнтра. Пакуль рыхтуецца вітрына для нядаўна набытага Статуту ВКЛ, дырэктар музея думае пра новыя экспанаты. Гэтым разам на аўкцыёне знойдзеная кніга «Вялікае мастацтва артылерыі», напісаная Казімірам Семяновічам і ўпершыню выдадзеная ім у 1650 годзе.

Кошт рарытэту складае 15 тысячаў еўра. Музей ізноў шукае спонсараў і неабыякавых грамадзянаў, здольных дапамагчы ў пашырэнні музейнай калекцыі.

***Магілёўскае тэлебачанне, 2-гі канал***

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 10.07.2012 г. у 21-00.